*Юльцэсь ГАЛОЎЧЫЦ*

# КВІТОК ДА БАЦЬКОЎ

Дзень абяцаў быць надзвычай прыемным. Указвала на гэта многае: ветлівыя павевы ветрыка, травеньскае цёплае сонца і квіток на цягнік да бацькоў. Мяне з дзяцінства вабіла дарога, нават, калі суткамі ехалі ў вагоне, аўтобусе ці машыне. Гэтая бясконцая змена даляглядаў за акном, змена часу дня і асветленасці наваколля, змена надвор'я і паху паветра. Можна стаць сведкам сотняў гісторый і ўбачыць тысячы твараў, нават не выходзячы з цягніка. Асабліва ўражвала гэтае цікавае адчуванне несапраўднасці рэчаіснасці: як магчыма тое, што ты ўжо некалькі дзён знаходзішся ў адным памяшканні, але пабываў у розных краінах, перасек шмат мерыдыянаў? Можа, тады ты нікуды і не рухаўся, проста хтосьці за акном перасоўваў наземныя пліты, па прынцыпе каруселі ў парку атракцыёнаў, ці да твайго цягніка падкочвалі, як тэатральную дэкарацыю, новы краявід?

Бывае, калі едзеш уначы і колы адбіваюць першабытныя рытмы, часам сон выпускае цябе са сваіх абдоймаў, і ты расплюшчваеш вочы, нават не разумеючы, ці спаў увогуле. За акном, у цемры, звычайна бачыцца нешта зусім новае, нешта неверагоднае, казачнае. І, нібы ў здзек, машына не спыняецца, едзе далей, і ты не можаш выйсці вонкі ў гэтую чароўную вабную прастору. І шчыміць сэрца туга, але ты ўсё ж засынаеш, патанаючы ў іншы паралельны свет, а прачнуўшыся ўранку, зноў назіраеш непаўторную прыгажосць. І калі бачыш бясконцыя лясы ці зацягнуты ў белы ранішні ватналёгкі туман лог, то пільна ўглядаешся ў імклівыя кадры, стаіўшы дыханне, бо ў цябе толькі некалькі секунд, каб назаўсёды захаваць гэтае месца і ўсю яго адметнасць ды дэталі ў памяці. Ці тое старажытныя могілкі, ці самотны конь у полі, ці затоены між дрэў хутар — знакі прыгод і таямніц.

І ўсё гэта такое адрознае ад таго, што звычайна бачыш у родным горадзе: запыленыя аўтамабілямі праспекты, бетонна-шкляныя гмахі і падрубленыя невысокія дрэўцы. Вось і цяпер мяне сціскаюць гарадскія вуліцы і бяздушныя сцены, але я хутка кіруюся да вакзала. Нарэшце



***Юльцэсь Галоўчыц нарадзіўся 3 ліпеня 1985 года ў Мінску. У розны час атрымліваў мастацкую і музычную адукацыю, перыядычна працаваў у гэтых накірунках. Глыбока цікавіцца аўтэнтычным фальклорам. Некалі ўдзельнічаў у рэканструктарскім руху. Заўжды быў моцна звязаны з літаратурай. Улюбёныя аўтары: Пелевін, По, Лаўкрафт, Юнг.***

атрымалася дабрацца да чыгункі: платформа, цягнік — і я ў купэ. Побач аднаразовыя незнаёмцы, часцей за ўсё нецікавыя і не такія загадкавыя, як тыя краявіды, што чакаюць мяне ўжо праз некалькі хвілін. З сабою невялікі заплечнік і пакуначак з ежай: мінералка, яблык і слойка. А больш і не трэба, бо ў заплечніку прыхаваны томік з чарадзейнымі прыгодамі. Дзіўна, але ў дзяцінстве не так моцна падабалася чытаць казкі, як цяпер.

Разгарнуўшы кнігу на чарговай цікавай гісторыі, пачынаю чытаць: «У адным далёкім уладарстве Файдрэйк жыў дзіўны малады каралевіч Серпент. Замак яго — Афідыян — знаходзіўся ў самым сэрцы пракавечнай дубровы Афіялатры, якую з усіх бакоў ахоўвалі-атачалі ад чужынцаў і незапрошаных мінакоў-вандроўнікаў высокія курганы і халодныя магілкі Энгвана. Апошнія непарыўным ланцугом стаялі на варце цішыні і спакою Файдрэйка. Такія маркотныя краявіды-далягляды вельмі моцна ўплывалі на заўсёды сумнага Серпента. Юнак з кожным днём станавіўся ўсё больш змрочным і маўклівым. Бацькі прынца не заўважалі настрояў сына, што чуў спевы-галашэнні птушак, бачыў у нябёсах пагрозлівыя вобразы згубы і самотна блукаў па бясконца мудрай Афіялатры.

А прырода Файдрэйка і сапраўды высільвалася беднага прынца знішчыць, нават пакінула яму свой д’ябальскі падарунак, наслаўшы на яшчэ малога нашчадка каралёў такі заклён, які ледзь не пазбавіў наіўнага хлопчыка зроку. Так на ўсё жыццё і засталося ў яго адно вока меншым, а другое — большым. І бачылі тыя вокі* ўсё па-рознаму, нібы не адзін чалавек імі глядзеў, а два.

Гэта і сталася прычынай яго невытлумачальных для іншых паводзін: дзівакаваты Серпент адмаўляў усім князёўнам, якіх яму знаходзілі старыя кароль з каралевай. Глядзеў самотны прынц на незвычайных красунь і чароўных прыгажунь сваім малым вокам і бачыў толькі іх пустыя вачніцы і сапраўдныя злосныя сутнасці. Таму бацькі хутка перасталі спрабаваць ажаніць яго і пакінулі ў спакоі.

Тады загадкавы каралевіч змог пасяліцца ў паўночнай вежы Афідыяна — Вайпары, і замкнуўся там ад усяго і ад усіх. Дзіўны летуценнік не сумаваў, таму што больш за ўсё любіў Адзіноту, якая спявала яму перад сном чароўныя калыханкі-заклёны, навяваючы сюжэты для сноў-фантазій і мрояў-трызненняў.

Але аднойчы самотны прынц убачыў праз сваё акенца таямнічую красуню, якая адразу прывабіла яго халоднай адчужанасцю постаці, загадкавым нахілам галавы і танклявым вабным станам. Яна падалася такой самай, як і ён: далёкай ад гэтага знешняга варожага свету.

З часам рамантычны каралевіч так закахаўся ў прыцягальную незнаёмку, што і ўявіць не мог без яе сваё існаванне. Штовечар ён пазіраў з аканіцы Вайпары долу і дзівіўся паставе сваёй каханай, якая пазірала на захад, але акрамя здзічэлага і мёртвага Энгвана бачыць нічога не магла. Тады ўяўляліся яму розныя міфічныя краіны і казачныя сусветы, дзе яны разам будуць некалі вандраваць Шляхам Пошуку Сэнсаў.

Але прынц-дзівак не ведаў імя сваёй абранніцы, і таму, нарэшце, наважыўся пазнаёміцца з дзяўчынай. І такім глыбокім быў яго спуд, калі, наблізіўшыся да сваёй уяўнай мары, ён убачыў замест нахіленай, як бярозка, прыгажуні, цень вялізнай галіны магутнага дуба, што адкідаў свае чорныя адбіткі далёка навокал. Зразумеўшы ўсю трагічную безвыходнасць свайго становішча, малады Серпент імгненна кінуўся ў Афідыян, загадаў спілаваць галіну і потым ізноў замкнуўся ў Вайпары ад жывога і ад мёртвага. Але аднойчы каралевіч наважыўся паглядзець са свайго клятага акна

* Слова аўтара.

на ранейшае месца сваёй прывіднай мроі, і як толькі стомлены прынц убачыў скалечанае дрэва, то такі вусціш авалодаў яго душой, што на ўсё наваколле раздаўся нечалавечы гучны рокат — і беспрытомны каралевіч пачаў хіліцца вонкі з чорнай аконнай дзіркі».

Літары канчаткова расплыліся перад вачыма, і тухканне колаў цягніка калыханкаю ўгайдала мяне на адну-дзве гадзінкі. Сніўся нібы і працяг, але і не зусім гэтай гісторыі. Нейкі тунэль, палёт, чарговы іншасвет. Там мне давялося зірнуць у горла глыбокага калодзежа і трапіць у дзіўную пастку: гэта я, там, унізе, гляджу на сябе ў адказ? Ці гэта нейкі вязень-няшчаслівец? Трэба спусціцца па яго і ўратаваць бедака? Ці бяспечней назіраць зверху?

Але лепшым выйсцем падалося лезці ў дзірку. Знайшлася недзе вяроўка, на якой неабходна было навязаць вузлоў і замацаваць на дрэве, і пасля гэтага засталося толькі адно: наважыцца перакінуць нагу. І зрабіць тое мне давялося. Глядзець уніз было страшна, таму заставалася проста апускацца ў цемру ўсляпую. Спуск падаўся неверагодна доўгім. Рукі сцерліся ў кроў, цягліцы на нагах напяліся і невыносна забалелі. Вяроўка рыпела, і, здавалася, што вось-вось здарыцца нешта непапраўнае: альбо зламаецца дрэва, альбо вузел развяжацца, альбо нехта перарэжа трос — і ты сарвешся ды паляціш. Як у «Алісе ў краіне цудаў», пачнеш падаць, нібы ў глыбокі тунэль. І ці тое тунэль будзе вельмі глыбокім, ці тое падаць ты будзеш вельмі павольна. І няўжо гэтаму не будзе канца? І ці не праляціш ты ўсю зямлю наскрозь? Як у тым жудасным «Падзенні ў Мальстрэм» Эдгара По.

Хаця куды там жахаўкам По, калі адчуваеш, што тут і цяпер ты больш зусім не маеш сіл: і ўгару не ўзняцца, а толькі долу, адкуль і выйсця іншага не будзе. Адзіная магчымасць — счакаць там троху, набрацца сілы і лезці назад. І вось — шлях пераадолены. Ногі ступілі ў сцюдзёную ваду, і нешта нібыта ўхапіла за ступак, але тое, відаць, слізкія заімшэлыя камяні дна. Але нават гэтыя маленькія каменьчыкі выклікалі ў душы вусціш.

Так, я на месцы, але тут нікога няма. Выцягваю рукі і намацваю цвёрдыя сцены — без таемных хадоў і лёхаў. Але гэта немагчыма! Калі акрамя мяне тут больш нікога няма, то куды падзеўся той дзіўны вадзянік, што роспачна глядзеў на мяне з гэтага самага месца? Мяне ахапіў адчай і злосць. Як мне цяпер выбрацца? Сіл няма і нікога побач, хто б дапамог, таксама. З горла вырваўся гнеўны рык, а потым увогуле аглушальны звярыны кліч, што агаломшыў і мяне самога. Нібыта крычаў яшчэ нехта зверху і, сапраўды, на мой здзіўлены позірк угору мне адказалі жахлівым пытаннем гэткія самыя ачмурэлыя вочы. Адтуль, з неба, на мяне глядзеў мой блізнюк ды крычаў з той жа гучнасцю, што і я!

Шчыра кажучы, хоць гэта быў толькі сон, але пасля яго сэрца напоўнілася трывогай. Уратавала тое, што грукат цягніка вырваў з гэтай халоднай ямінy. І, зноўку паглыбіўшыся ў кнігу на апошняй прачытанай старонцы, мяне зацягнула ў новы містычны вір: «Але не ўсё ў Файдрэйку прагнула смерці кволага юнака: яго шалёны дзікі енк пачула мясцовая вядзьмарка, якая жыла недалёка ў навакольных лясах і здаўна паглядала на невясёлы Вайпар з галіны таго самага высокага і раскідзістага дуба. Звярнуўшыся да ўсіх сваіх магічных сіл і гучна заспяваўшы маркотную песню Афіялатры, яна папрасіла духаў Файдрэйка дапамагчы. Пачуўшы дзівосны спеў, слабы Серпент імгненна выпрастаўся і паспеў ухапіцца за падаконне. Нібы ачуняўшы ад шматгадовага сну, прынц захацеў абавязкова дазнацца

пра незвычайную спявачку як мага болей. Ён накіраваўся насустрач яе голасу і доўга-доўга блукаў у зялёных дубровах. І толькі знайшоўшы сваю вядзьмарскую выратавальніцу, самотны юнак нарэшце ўбачыў усё сваімі featureназапамернымі вокамі правільна і сіметрычна.

У тую самую хвіліну адроджаны каралевіч з яшчэ большым імпэтам памкнуўся да прыгожай чараўніцы, але, як толькі ён пачаў набліжацца, тутэйшая вядзьмарка пачала адыходзіць глыбей у нетры Афіялатры і ўсё працягвала спяваць свой магічны гімн. Акрылены Серпент крочыў за вандроўнай спадарожніцай, якую так і не мог дагнаць, бо адлегласць паміж імі не змяншалася, колькі б ён ні рабіў намаганняў. Так шпацыравалі яны дзень за днём, тыдзень за тыднем, месяц за месяцам. А калі сцішаны прынц ужо страціў надзею на знаёмства з чароўнай німфай, то яна адразу спынілася і павольна павярнулася да знямоглага пакутніка. Зірнуўшы ў твар чароўнай спявачкі, разгублены каралевіч нарэшце змог разгледзець яе вочы, адно з якіх было азёрна-вадзяністага колеру, а другое — балотна-бурштынавага. Загадкавая вядзьмарка ўсміхнулася зачараванаму вандроўніку і паклікала яго рукою да сябе. Здзіўлены, ён стрымгалоў кінуўся насустрач лясной жыхарцы, і нават спачатку не заўважыў, што пад нагамі яго была ўжо не цвёрдая зямля, а глыбокая, вільготная, бясконцая бездань, якая пачала зацягваць прыўкраснага Серпента ўсяго цалкам»…

Цягнік спыніўся на маёй станцыі, таму закладаю квітком старонку і кніга імкліва ляціць у заплечнік. Што будзе з каралевічам і вядзьмаркай? Не ўяўляю. Але пасля вячэры з бацькамі абавязкова даведаюся.